



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

13 мая 2016 года №20 **(1098)**


## Гутарым з чатырма жанчынамі, якія не ўяўляюць жыццё без руля, дарогі, хуткасці і паху бензіну

Далоў стэрэатыпы!

старонкі **20-21**

## Як складаць сямейны бюджэт

Спіс простых правілаў і карысных парадаў

старонка **5**

## Калі плануюць закончыць рамонт моста праз Сэрвач

старонка **2**

# Выпрабавана на сабе

75 000

старонка **3**

Фота Наталлі ТУР.

## Ці каштуюць паслугі маладзечанскай лазні 75 тысяч?

## Жыхарам дома №60 па Вялікім Гасцінцы пабудуюць дзве паркоўкі, сметніцу пераносіць не стануць

МАЛАДЗЕЧНА

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** адказаў на просьбы жыхароў дома №60 па Вялікім Гасцінцы.

Пра гэта распавяла жыхарка дома **Тамара Камарова**:

– Адказ старшыні ў пісьмовым выглядзе прымацавалі на кожны пад'езд. Нам паабяцалі зрабіць дзве паркоўкі, але мне вельмі шкада стадыёна, на якім дзеці гулялі ў футбол.

Тэкст адказу Аляксандра Яхнаўца выглядае так:

"Праектная дакументацыя па аб'екце "Шматкватэрны жылы дом па Вялікім Гасцінцы, 60-а" распрацаваная ў адпаведнасці з тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі, тэхнічнымі ўмовамі гарадскіх эксплуатацыйных службаў, узгодненая і зацверджаная ў адпаведнасці з устаноўленым заканадаўчым парадкам.

Праектнай дакументацыяй прадугледжана комплекснае добраўпарадкаванне тэрыторыі, азеляненне, арганізацыя дзвюх паркоўак на 27 машын, пляцовак для дзяцей з устаноўкай абсталявання для гульняў і малых архітэктурных формаў ( пясочніцы, арэлі, спартыўныя комплексы), дзве пляцоўкі для сушкі і ачысткі рэчаў.

Па пытанні размяшчэння кантэйнернай пляцоўкі для збору смецця паведамляем, што кантэйнерная пляцоўка аддаленая ад вокнаў дома, які праектуецца, і ад дамоў ужо пабудаваных на адлегласць не менш за 20 метраў, што прадугледжана санітарнымі нормамі".

**Наталля ТУР.**

## Следчы камітэт ладзіць прыём грамадзян

У будынку Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта 19 мая адбудзецца выязны прыём.

Ад 11:00 да 13:00 прыём будзе весці намеснік начальніка Упраўлення СК па Мінскай вобласці **Андрэй Іванавіч Ліс.**

Папярэдне запісацца можна 18 мая ад 10:00 да 13:00 і ад 14:00 да 16:00 па тэлефоне (80176) 77-44-21.

Райаддзел месціцца па адрасе: Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 23.

**Юры БАГУШЭВІЧ, старшы следчы Маладзечанскага РАСК, маёр міліцыі.**



# Калі плануюць закончыць рамонт моста праз Сэрвач

ВІЛЕЙКА

**Чытачы "Рэгіянальнай газеты" занепакоеныя тым, калі адкрыюць мост праз раку Сэрвач на аўтадарозе Ушачы-Вілейка.**


Фота Галіны СІНІЦЫ.

Пусціць рух па мосце праз раку Сэрвач плануюць у канцы чэрвеня.

Цяпер кіроўцам даводзіцца ездзіць па аб'язной дарозе, якая ідзе праз вёску Добравічы. Некаторыя ездзяць з Даўгінава праз вёску Сосенка. Гэты шлях добры для тых, хто едзе ў Вілейку. Калі вам неабходна трапіць у Маладзечна, можна паехаць з Даўгінава на Ілью.

Аднак аб'язная дарога гэта дадатковыя кіламетры і горшая траса. Жыхарам навакольных вёсак працсей – яны могуць перайсці на другі бок праз пешаходны мост, які зрабілі побач.

Рамонт моста пачаўся ў лістападзе. Паводле пашпарта аб'екта, яго павінны завяршыць у чэрвені.

– Мы ўкладаемся ў план. Завяршыць рамонт плануем у тэрміны – 20 чэрвеня, – расказвае адказны вытворца работ **Сяргей Кенць**. – Але рух, магчыма, пусцім на дзён дзесяць пазней, каб цалкам завяршыць усе работы. Пасля пачнём рамонт пад мостам: умацуем конусы, пачнём тынковачныя і фарбавальныя работы.

За час рамонту мост умацавалі, расшырылі яго амаль у два разы, дэмантавалі старыя поручні, іх заменяць на новыя.

**Галіна СІНІЦА.**

## Эдуард Мацюшонак прапануе правесці рэгіянальную выставу-сустрэчу мастакоў

**Мастак Эдуард Мацюшонак з Вілейкі звярнуўся ў рэдакцыю з прапановай аб арганізацыі і правядзенні пад эгідай нашага выдання рэгіянальнай выставы-сустрэчы мастакоў у Маладзечне:**


Фота з архіва "РГ".

Эдуард Мацюшонак.

"Нагода самая спрыяльная для такога вернісажу: у краіне праходзіць мерапрыемствы, прысвечаныя Году культуры, і Маладзечна сёлета абранае культурнай сталіцай нашай краіны. Было б цудоўна, каб з кожнага раёна, дзе чытаюць "Рэгіянальную газету", мастакі прадставілі свае творы на гэту выставу, а таксама прынялі непасрэдны ўдзел у самім вернісажы.

Магчыма, такая сустрэча дапаможа мастакам адчуць новую хвалю творчага ўздыму, а гледачам падорыць прыемныя хвіліны не віртуальнай, а рэальнай сустрэчы з творчым жыццём нашага рэгіёна".

Потым у каментары Эдуард Мацюшонак дадаў:

– Цяпер мы разышліся па сваіх кватэрах і маем стасункі толькі цераз інтэрнэт. А ён ніколі не можа выклікаць у чалавека нейкіх сапраўдных эмоцый – гэта ўсё штучнае. Калі ты маеш адносіны з мастаком, і ўвогуле чалавекам, ты маеш адносіны з яго духоўным, душэўным светам. І тады ты разумееш, што мы ўсе розныя, але жывём у гэтым свеце, бачым адны і тыя з'явы, толькі кожны ўспрымае іх па-свойму. Гэта і ёсць мастацтва. Давайце зробім так, каб мы атрымлівалі асалоду ад таго, што мы жывём і што мы розныя і ўсе ў адным свеце і ў адзін час суіснуем.

Віляйчанін спадзяецца, што вынікам такой сустрэчы магло б стаць стварэнне мастацкага клуба:

– Хочацца, каб мастакі сабраліся, каб атрымаўся такі асяродак – быццам бы мастацкі клуб, якога ў нашай вобласці няма. У нас ёсць сталіца – і ўсё. Вось каб з'явіўся такі клуб і мастакі змаглі выстаўляцца, сустракацца, размаўляць. Магчыма, гэта было б нейкім штуршком, каб пачалі з'яўляцца тыя людзі, якія зацікавіліся мастацтвам. І з'явілася б нейкая новая плынь.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Мядзельшчыне праходзіць дабрачынны марафон

МЯДЗЕЛ

Сабраныя грошы накіруюць на дзве справы. Першая з іх – адкрыццё Дома сумеснага самастойнага пражывання грамадзян пажылога ўзросту і інвалідаў.

Яго плануюць адкрыць у будынку былой школы ў вёсцы Камарова, расказала намеснік дырэктара Мядзельскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Наталля Шаранговіч.**

Разлічаны Дом на пражыванне да васьмі чалавек. Яны будуць самастойна гатаваць ежу і весці гаспадарку. Плаціць будуць толькі за камунальныя паслугі. А яшчэ – за паслугі сацработніка, калі такія спатрэбяцца.

Сабраныя падчас марафону грошы выдаткуюць на рамонт будынка, пакупку пральнай машыны, бытавой тэхнікі, мэблі...

Другая справа – абсталяванне будынка аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў элементамі безбар'ернага асяроддзя. Аддзяленне вырашылі перамясціць з двух маленькіх пакояў у цэнтральнай раённай бальніцы ў асобны будынак. Але перад гэтым яго трэба аснасціць пандусамі, парэнчамі і іншым – каб людзям з абмежаванымі магчымасцямі было зручна.

Дабрачынны марафон "Ад сэрца да сэрца" працягнецца да 31 мая. Праходзіць з падтрымкай райвыканкама.

**Ахвяраванні прымаюць на рахунак ЦБУ №619 у Мядзеле філіяла №601 у г. Маладзечна ААТ "ААБ "Беларусбанк" код 769, ОКПО 29238633, УНП 690293072, разліковы рахунак 3632061900578.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ТЭМА НУМАРА

# Выпрабавана на сабе: ці каштуюць паслугі лазні 75 тысяч?

МАЛАДЗЕЧНА

**Карэспандэнтка "Рэгіянальнай газеты" наведала лазню №4 у Маладзечне, каб на сваім досведзе ўпэўніцца, што вялікія цэны на лазню апраўданыя.**



Фота Наталлі ТУР

Тазікі ў лазні цяпер – гэта не тыя металічныя шайкі, пра якія складаюцца анекдоты, а звычайныя чырвоныя пластмасавыя ванначкі.

Нагадаем нашым чытачам, што ад студзеня кошт наведвання гарадской лазні вырас ад 38 да 75 тысяч рублёў.

Такое павышэнне абумоўленае пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 1 студзеня 2016 года, калі з пераліку сацыяльна значных паслуг былі выключаныя паслугі агульных аддзяленняў лазняў і душавых.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў **Міхаіл Івашкевіч**, начальнік лазневай гаспадаркі:

– Раней страты пакрываліся з бюджэту. Цяпер тарыфы на паслугі лазні фарміруюць прадпрыемствы, на балансе якіх знаходзяцца. Тое, што цана лазні – 75 тысяч, гэта яшчэ не так шмат. Па нашых падліках, сабекошт лазні павінен складаць каля 120 тысяч. І то нам давялося адмовіцца ад басейна – эканомія вады.

**– Наведнікаў такія цэны палохаюць?**

– Шчыра кажучы, так. Людзей стала менш.

У пятніцу, каля трох гадзін дня, у касе няма нікога. Касірка прабівае чэк.

– Там зойдзеце ў распранальню і чэк начэпіце на цвічок.

У распранальні зноў ні аднаго чалавека. Толькі плёскат вады падказвае, што за дзвярыма лазні ўсё ж нехта ёсць.

Тое, што квіточак трэба нанізваць на штырок пры ўваходзе, мне нагадала карцінку з майго дзяцінства. Хоць цьмяна, але памятаю, што такі штырочак стаяў ля зялёнага касавага апарата ў кафетэрыі. Наніжаш туды кавалак паверкі, і прадавачка нальле табе ліманаду ў шклянку, дзе дно размаляванае чырвонай фарбай, і падасць у карычневай паперы піражнае-бульбачку.

У лазні такога сэрвісу, вядома, няма.

Але справа ад дзвярэй дзяжурнай стаіць фен. Той самы, з каўпаком, якіх было безліч у савецкіх цырульнях і пад якімі жанчыны ў бігудзі і з "хіміяй" на галаве хаваліся на цэлую гадзіну.

Што датычыцца шафак для адзення, то яны чыстыя, пафарбаваныя, закрываюцца на кручок. Аднак на сцяне ўсё ж вісіць папярэджанне, што за каштоўныя рэчы, якія не былі перададзеныя асабіста ў рукі дзяжурнай, адміністрацыя адказнасці не нясе.

Так што, калі раптам вам давядзецца наведваць лазню з чамаданам грошай, смела аддавайце іх дзяжурнай **Антаніне**, яна надзейна захавае іх у сейфе.

Пасля таго як падрыхтоўчы этап да прыняцца лазневых працэдур завершаны, накіроўваюся ў саму лазню.

**Два душы, якія пачынаюць працаваць толькі тады, калі на іх становішся нагой. Пры гэтым магчымасць рэгулявання цяпла і напору вады адсутнічае.**

Ну што ж, было горача, але масажны эфект ад магутных струменяў нязручнасці кампенсаваў.

Па колькасці расстаўленых тазікаў я падлічыла, што ў лазні, акрамя мяне, мыюцца яшчэ тры жанчыны.

Тазікі цяпер – гэта не тыя металічныя шайкі, пра якія складаюцца анекдоты. А звычайныя чырвоныя пластмасавыя ванначкі, якімі, мяркую, шмат хто карыстаецца і дома ў час адключэння гарачай вады.

Дзверы, якія вядуць у басейн, надзейна закрытыя драўлянай рашоткай: ну, нельга туды.

У пакоі адпачынку можна пагартаць глянцавыя жаночыя часопісы, але толькі за 2005 год.

Наперадзе – сэнс наведвання любой лазні – парылка.

Парылка прыгожая, абабітая новымі дошкамі. Ляжаць на такіх духмяных драўляных паліцах, сапраўды, задавальненне. Тэрмометр паказвае 90 градусаў. Разамлеўшы ад пару, можна і пагутарыць з выпадковай знаёмай.

Мая суседка па паліцы прызнаецца, што ў лазні яна – пастаянны кліент. Стараецца спраўна наведваць яе раз на тыдзень.

– Гэта такі рэлакс. Такая магчымасць дзве гадзіны прысвяціць сабе любімай. Я бяру з сабой маскі, скрабы, націранні розныя, гарбату ў тэрмасе. І адпачываю. Для мяне – гэта лепшая лазня ў горадзе. Так, дорага, але для цяпер танна?

Пасля парылкі можна акунуцца ў ванну з ледзяной вадой.

Я не рызыкнула. Не, не таму што баюся холаду, а проста дно ў гэтай ванне аказалася зялёнага колеру ад слізі, што назапасілася на гэтым самым дне.

У прынцыпе, яшчэ два заходы ў парылку я зрабіла. Сядзела і шкадавала аб тым, што ў кошт лазні не ўваходзіць прафесійны лазнік з сапраўдным бярозавым ці дубовым венікам. А, можа, трэба было пра гэта запытацца?

Калі я апраналася, дзяжурная па лазні Антаніна пажадала мне лёгкага пару і прапанавала кубачак гарачай гарбаты і магутны фен.

А калі развіталася са сваімі новымі знаёмымі, жанчыны папрасілі:

– Вы толькі надта добрае пра лазню не пішыце, а то набягуць людзі, а цяпер тут так хораша і спакойна.

### Цэны на лазні ў рэгіёне:

Віляйчанам і смаргонцам лазня абыходзіцца танней за ўсіх у рэгіёне – 45 тысяч. Але ў Смаргоні ёсць загадкавы "другі паверх" з басейнам – 110 тысяч.

Жыхары Валожына, Мядзела і Астраўца змогуць наведаць гарадскія лазні за 55 тысяч.

На тры тысячы болей давядзецца заплаціць ашмянцам – 58 тысяч.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)




| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.05 руб. | 12.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 19 400,00 | **19 461,00** |
| Еўра | 22 294,00 | **22 165,00** |
| Злоты | 5 060,61 | **5 023,85** |
| Расійскі рубель | 293,35 | **293,67** |
| Грыўня | 763,94 | **772,49** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 11.05** | | |
| Еўра | 22000/22350 | **21800/22300** |
| Долар ЗША | 19120/19450 | **19100/19600** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.05 Цана руб. | 11.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 179 800 | **179 800** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 500 | **28 500** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9 900 | **11 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 79 500 | **79 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 14 500 | **12 500** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 14 900 | **12 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 59 500 | **42 000** |
| Лімоны, 1 кг | 40 000 | **47 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 25 000 | **24 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 35 000 | **39 500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 25 000 | **27 500** |
| Ківі, 1 кг | 28 500 | **29 500** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 37 000 | **33 000** |
| Агуркі, 1 кг | 26 900 | **21 500** |
| Перац, 1 кг | 54 900 | **70 000** |
| Радыска, 1 кг | 24 900 | **17 500** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 19 900 | **24 500** |
| Вінаград, 1 кг | 38 500 | **45 000** |
| Бананы, 1 кг | 26 900 | **27 000** |
| Гранаты, 1 кг | 34 900 | **34 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 000 | **12 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25 000 | **33 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Парушальніка ў лесе злавіла фотапастка

ВІЛЕЙКА

Пра гэта паведаміла намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце Вілейскага доследнага лясгаса **Таццяна Анішчык**.

– У квартале 80 Вязынскага лясніцтва 16 красавіка чалавек выкінуў будаўнічае смецце, – расказвае яна. – Фотапастка зрабіла здымкі, як адразу трактар заязджае ў лес са смеццем, а потым выязджае без яго. Па выяве трактара знайшлі гэтага чалавека, паказалі здымкі – ён прызнаўся.

На вяскоўца склалі пратакол за адміністрацыйныя парушэнні, прызначылі штраф.

Нагадаем, каля года таму лясгас набыў пяць партатыўных відэакамер (фотапастак) – якраз для барацьбы з тымі, хто смеціць у лясах і парушае правілы наведвання. Камеры абсталяваныя датчыкамі руху ды інфрачырвонай падсветкай – так што, могуць здымаць і ў цемры. Дазваляюць разгледзець аўтамабільныя нумары і твары людзей. Фотапасткі перыядычна перамяшчаюць у іншыя месцы.

**– Сёлета гэта першы выпадак, калі фотапастка дапамагла злавіць парушальніка, – працягвае Таццяна Анішчык.**

– У лесе вядзецца назіранне. Так што, не варта рызыкаваць і выкідваць тут смецце. За гэта можна атрымаць штраф.

**Аддзел інфармацыі.**





# Чаму затрымалі гандлярку ў двары каля рынку

МАЛАДЗЕЧНА

**Канфлікт здарыўся днём 6 мая ў двары па Вялікім Гасцінцы каля дома №68-б.**



Фота Настассі РОЎДЫ

Маладзечанцы сталі заступацца за гандлярку, якая ва неўстаноўленым месцы прадавала з латкоў вазонныя кветкі.

Гараджане абступілі гандлярку, на якую міліцыянер накінуў кайданкі, і не разыходзіліся, пакуль жанчыну не адпусцілі.

Як патлумачылі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў Упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама, інцыдэнт адбыўся падчас рэйду па прадухіленні гандлю ва неўстаноўленых месцах. У склад рэйдавай камісіі ўваходзілі прадстаўнікі аддзела гандлю і паслуг райвыканкама, раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, а таксама камунальных службаў. Супрацоўнікаў міліцыі прыцягнулі для аховы грамадскага парадку.

Члены камісіі звярнулі ўвагу на гандлярку, якая ва неўстаноўленым месцы прадавала з латкоў вазонныя кветкі. Жанчына адмовілася называць членам камісіі свае дадзеныя, і яны звярнуліся да супрацоўніка міліцыі па дапамогу ва ўстанаўленні асобы жанчыны.

На неаднаразовыя патрабаванні супрацоўніка міліцыі назваць свае дадзеныя гандлярка не рэагавала. Супрацоўнік міліцыі прапанаваў жанчыне прайсці ў РАУС для высвятлення асобы. Ён папярэдзіў яе пра недапушчальнасць супрацьпраўных дзеянняў і непадпарадкаванне законным патрабаванням, а таксама пра тое, што да яе могуць быць ужытыя фізічная сіла або спецыяльныя сродкі.

Жанчына паспрабавала ўцячы з месца здарэння і стала адштурхоўваць супрацоўніка міліцыі.

Пасля неаднаразовых папярэджанняў і патрабаванняў паводзіць сябе спакойна, супрацоўнік міліцыі прыняў рашэнне накінуць на яе кайданкі.

Да гэтага часу на месцы інцыдэнту сабраліся людзі, асобныя з якіх пачалі бурна выказваць, каб затрыманую адпусцілі. Для ўрэгулявання сітуацыі на месца дадаткова прыбылі супрацоўнікі міліцыі і кіраўніцтва Маладзечанскага РАУС. У выніку пасля высвятлення асобы грамадзянкі яе адпусцілі з месца здарэння.

Факт ужывання спецсродкаў зарэгістраваны ў адпаведнасці з нарматыўнымі актамі. У дачыненні да 41-гадовай мясцовай жыхаркі, якая раней неаднаразова прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці, у тым ліку за гандаль ва неўстаноўленых месцах і незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць, пачаўся адміністрацыйны працэс. У яе дзеяннях ёсць прыкметы правапарушэнняў, звязаных з парушэннем правілаў гандлю і непадпарадкаванню законнаму патрабаванню службовай асобы.

Фігурантка канфлікту па ўласнай ініцыятыве ўжо наведала Маладзечанскі РАУС. Ёй растлумачылі нормы дзеючага заканадаўства. Праводзіцца праверка.

### Каментуе аддзел гандлю і паслуг райвыканкама

– Акрамя правоў ва ўсіх нас ёсць абавязкі, – каментуе кіраўнік аддзела гандлю і паслуг райвыканкама **Ірына Крук**. – Існуюць нормы заканадаўства, у тым ліку ў сферы гандлю, якія вызначаюць, дзе можна гандляваць, а дзе – нельга. Гэты выпадак – пацвярджэнне таго, што адказнасць за парушэнне закона надыходзіць. Жыццёвыя складанасці, хваробы, недахоп грошай не дазваляюць парушаць закон.

Кіраўнік аддзела гандлю і паслуг заўважае, што не ведаць пра адказнасць амаль немагчыма, паколькі работа па спыненні гандлю ва неўстаноўленых месцах ідзе гадамі.

– Звяртаемся ў сродкі масавай інфармацыі. Гаворым не толькі для гандляроў, але і для пакупнікоў, якія хочуць быць упэўненыя ў якасці таго, што набываюць. Увесь час паступаюць званкі ад людзей, якія набываюць сапсаваныя прадукты "з рук", а потым шукаюць у нас абарону, – распавядае Ірына Уладзіміраўна. – Блізіцца лета, пытанні гандлю ва неўстаноўленых месцах становяцца асабліва балючымі, а наступствы – сур'ёзнымі. Мы актывізавалі працу па спыненні гандлю ў нявызначаных месцах. Адно з самых праблемных – ля рынку райспажывтаварыства.

Ірына Крук адзначыла, што летась прыцягнулі да адказнасці за незаконны гандаль больш за дзесяць чалавек. Сёлета работу па спыненні гандлю ва неўстаноўленых месцах працягнуць.

**Аддзел інфармацыі.**

# Хлопец гушкаўся на правадах і разбіўся насмерць

МАЛАДЗЕЧНА

**Недарэчныя забавы і бескантрольнае жаданне пачасаць кулакі: пра апошнія здарэнні, у якіх фігуруе моладзь, гаворыць начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС Сяргей Шытыка.**

Смяротны выпадак адбыўся ў пятніцу, 29 красавіка. Кампанія маладых людзей накіравалася ў вёску Касцюшкі, што на Маладзечаншчыне, забаўляцца з лініямі электраперадач.

Правады без току ляжалі на зямлі. Хлопцы вырашылі пагушкацца на іх як на тарзанцы. Чым мацней нацягваеш, тым далей ляціш, калі адпускаеш провад. Іх падкідвала на паўтройку метраў, а потым яны саскоквалі. Адзін жа нацягнуў провад вельмі моцна і не адпусціў, каб саскочыць. І сарваўся, калі адляцеў прыкладна на вышыню пяціпавярхоўкі.

Яго адвезлі ў бальніцу, але дактары не змаглі выратаваць, ён памёр. Хлопцу было 16 гадоў, вучыўся у Маладзечанскім дзяржаўным каледжы.

У кампаніі было пяцёра, усім ад 16 гадоў.

### Хуліганстваў паболела ў чатыры разы

– Злачыннасць стабілізуецца амаль па ўсёй вобласці, – кажа Сяргей Шытыка. – Калі летась на Маладзечаншчыне за чатыры месяцы зарэгістравалі 15 злачынстваў з удзелам непаўналетніх, то сёлета – 12. З чым гэта звязана? Летась быў моцны ўсплёск злачыннасці, і нельга сказаць, што цяпер яна ўпала. Хутчэй, нармалізавалася. Турбуе рост хуліганстваў. Летась быў толькі адзін выпадак, сёлета іх ужо чатыры.

Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх заўважае, што дастаткова дробязі, каб развязаць бойку. Не так паглядзеў, не так сказаў – і ўсё. Маладыя людзі не ўмеюць размаўляць паміж сабой, саступаць адзін аднаму, шукаць кампраміс. Нязначная нагода – ідуць у ход кулакі.

Узяць выпадак, што адбыўся вечарам 23 лютага. Маладыя людзі стаялі і размаўлялі каля інтэрната Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа. Чаго яны там стаялі – незразумела. У гэты час у інтэрнат вярталіся яго жыхары, двое хлопцаў і дзве дзяўчыны. Яны ішлі, нікога не чапалі. Трое зайшлі: хлопец і дзве дзяўчыны. Чацвёрты крыху ад іх адстаў. І малады чалавек з кампаніі, што стаяла тут побач, узяў і збіў яго. Проста так, без прычыны.

Калі ў 17-гадовага хлопца, які палез у бойку, спыталіся, што на яго найшло, ён не змог патлумачыць. Быў цвярозы.

Ці яшчэ адзін выпадак. Трое падлеткаў 13-14 гадоў з раёна СШ №3, аднакласнікі, вырашылі разграміць прыпынак каля дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. Без нейкай прычыны пачалі адрываць, ламаць і крышыць навесы. Кіроўцы, што праязджалі міма, сігналілі ім, а яны не звярталі ўвагі. Старэйшага з гэтых хлопцаў, якому 14 гадоў, прыцягнулі да адказнасці за хуліганства.

– Зноў жа – на роўным месцы, – каментуе Сяргей Шытыка. – Яны патлумачылі, што для іх гэта была проста забава. Пра шкоду не думалі. Мы ў іх пытаемся: "А дома вы таксама вось так бераце і ламаеце тое, што пад руку трапляе?" Не. Тут яны разумеюць, што гэта дрэнна.

Сёлета сярод здарэнняў з удзелам непаўналетніх пакуль што лідзіруюць крадзяжы, іх ужо пяць, і хуліганствы.

**Настасся РОЎДА.**

# Як складаць сямейны бюджэт

Адно з самых балючых пытанняў для любой сямейнай пары – грашовае. Пры сумесным жыцці агульны побыт, жыллё, маёмасць, агульны вольны час, падарункі сябрам, бацькам. А таму ўзнікае шмат пытанняў, менавіта матэрыяльных. Важна ўмець размаўляць і дамаўляцца.

Для многіх сучасных сем'яў стала тыповай сітуацыя: і муж, і жонка зарабляюць прыстойна, а грошай усё роўна не хапае. Пастаянна не хапае грошай тады, калі сямейная пара не ўмее размяркоўваць прыбыткі і суадносіць яго з выдаткамі і патрэбамі сям'і. Няправільнае планаванне сямейнага бюджэту – галоўная прычына канфліктаў паміж мужам і жонкай. Каб пазбегнуць сварак і скандалаў з-за недахопу грошай, кожны павінны зразумець, што трэба планаваць з розумам той бюджэт, які сёння ёсць.

Вельмі карысна спачатку запісаць усе прапановы кожнага з партнёраў, не падвяргаючы крытыцы, даць магчымасць прагаварыць жаданні і патрэбы. Гэта ўменне надзвычай важнае для гарманічнага і эфектыўнага вырашэння любых сумесных пытанняў. Пасля ўсяго агучанага і запісанага, калі эмоцыі ўжо выйшлі вонкі, прыходзіць рацыянальнае асэнсаванне "жаданні – магчымасці". Гэта займальны занятак надзвычай карысны, ён аб'ядноўвае, бо бессэнсоўна складваць грошы ў адным месцы без планавання выдаткаў, няма пагадненняў – няма адказных.

Спецыялісты рэкамендуюць абавязкова знаходзіць магчымасць эканоміць, адкладаць хаця б невялікую суму. Гэта карысна, асабліва для сем'яў, чый даход невысокі. Таму што незапланаваныя траты могуць прыйсці раптам і тэрмінова, і адкладзеныя грошы будуць вельмі дарэчы. Пасля вызначэння асноўных штомесячных выдаткаў, варта вылучыць важныя, але не тэрміновыя, якія пажадана было б рэалізаваць у бліжэйшым часе. Гэтак жа важна знаходзіць і выдаткоўваць грошы на задавальненне, хаця б невялікія – на кіно, тэатр, пікнік, кветкі, невялікі сюрпрыз.

Большую частку свайго жыцця мы працуем і зарабляем грошы, а аддаём, здавалася б, на патрэбныя і неабходныя рэчы, але такія банальныя і звыклыя, што радасці амаль не адчуваем. Таму так карысна ўвесці правіла і зрабіць сямейнай традыцыяй сумесны адпачынак, радаваць сябе і адзін аднаго прыемнымі рэчамі. Гэта добра матывуе, натхняе, надае сіл. Калі ёсць месца святу, і яно адбываецца разам з каханым чалавекам, – ужо не адчуваецца такая ахвота марнаваць грошы на свае асабістыя задавальненні.

У кожнага сваё стаўленне да грошай і распараджэння імі. Адны аддаюць перавагу планаваць выдаткі да капейкі. Іншыя робяць пакупкі спантанна, не лічачы, колькі засталося ў кашальку. Хтосьці адкладае грошы на адпачынак, новую мэблю ці футра. А хтосьці жыве ў пазыку. І самая вялікая памылка – патрабаваць ад блізкіх абыходзіцца з грашыма так, як прывыклі гэта рабіць вы.

Наўрад ці вы здолееце перавыхаваць дарослага чалавека, прымусіць яго перагледзець свае прынцыпы. Узаемаадносіны з грашыма – гэта следства характару, звычак, выхавання, якія ўжо не зменіш. Але можна скарэктаваць паводзіны і выконваць правілы, якія дапамогуць пазбегнуць бурных сварак.

**Карысна ўвесці правіла і зрабіць сямейнай традыцыяй сумесны адпачынак, радаваць сябе і адзін аднаго прыемнымі рэчамі**



Матэрыял падрыхтавала псіхолаг Таццяна ЖДАНАВА



**Ніколі не ганіцеся за тым, як жывуць іншыя!**

## Тры тыпы вядзення бюджэту сям'і

✓ **Агульны**: муж і жонка маюць супольны "кашалёк", сумесна абмяркоўваюць і плануюць выдаткі, назапашваюць зберажэнні, адкладаюць на агульны адпачынак, навучанне, канкрэтныя мэты. Псіхалагічна гэта азначае, пацвярджае і ўмацоўвае ўпэўненасць мужа і жонкі ў тым, што ў іх агульны ўзгоднены погляд на асноўныя пытанні, агульныя мэты, планы і высокі ўзровень даверу адзін да аднаго.

З эканамічнага пункту погляду – гэта найбольш рацыянальны тып сямейнага бюджэту, бо з дзвюх крыніц даходу лягчэй знайсці магчымасць аплачваць не толькі асноўныя патрэбы, але і збіраць, адкладаць, планаваць.

✓ **Часткова-агульны** (часткова-асобны): муж і жонка "складваюцца" на сумесныя выдаткі, пакупкі часткова. Яны дамаўляюцца пра долю фінансавага ўкладу. А "рэштай" – "свабоднымі" грашыма – кожны з партнёраў распараджаецца па сваім меркаванні. Такі тып бюджэту кампрамісны.

Рознагалоссі могуць быць не толькі з-за розных узроўняў заробкаў, але і з-за істотна розных поглядаў на планаванне і выкарыстанне сродкаў, рознасці інтарэсаў, мэтаў. Калі ёсць унутраныя нязгоды, якія турбуюць, не задавальняюць хаця б аднаго з партнёраў, то гэты кампраміс – ілюзія. І пры кожным зручным выпадку прэтэнзіі і папрокі могуць выплываць. Магчыма, часткова-асобны бюджэт з'яўляецца прымальным варыянтам і выхадам з такога становішча, калі, напрыклад, адзін з партнёраў занадта эканомны ці, наадварот, чалавек, у якога грошы ўвогуле не затрымліваюцца.

✓ Пры **асобным** бюджэце ў кожнага свой кашалёк, партнёры нічога адзін аднаму не павінны, капіталам распараджаюцца па сваім меркаванні, без узгаднення з партнёрам. Натуральна, што гэта магчыма пры ўмове, калі абодва маюць асабісты прыбытак і свядома, адказна ставяцца да вырашэння сумесных бытавых пытанняў. Такая форма размеркавання сямейнага бюджэту часцей сустракаецца сярод больш сталых пар. Асабліва калі шлюбы не першыя, у кожнага з партнёраў ёсць ужо свае дарослыя дзеці, і выдаткі на іх могуць моцна адрозніваца і вар'іравацца.

Планаваць трэба разам, абмяркоўваючы свае погляды, намеры, мэты, пажаданні. Важна, каб кожны мог выказаць свае чаканні.

## Правілы грашовых спрэчак

1. Абмяркоўвайце штодзённыя траты. Важна не даваць справаздачу, на што вы ўжо выдаткавалі грошы, а прамаўляць, што збіраецеся купіць. Такія размовы дапамогуць падзяліць цяжар фінансавай адказнасці. Бо часта спрэчкі ўзнікаюць з-за таго, што адзін з партнёраў здаецца, што менавіта ён аплачвае ўсе сямейныя патрэбы, а другі марнуе грошы ў сваё задавальненне.

2. Не сварыцеся за дарагую пакупку. Магчыма, у вас былі свае планы на гэту суму. А ваша палова выдаткавала іх па сваім меркаванні. Як бы там ні было, лаяцца бессэнсоўна, бо грошай ужо няма.

3. Загадзя інфармуйце мужа ці жонку, калі хочаце аддаць буйную суму.

Вам не спадабаецца, калі ваша палова цалкам самастойна робіць дарагія пакупкі? Успомніце пра гэта, калі вырашыце самі выдаткаваць вялікую суму грошай без яго ці яе ведама, і парайцеся. Усё ж такі вы сям'я, і прымаць рашэнні трэба разам, а не паасобку.

4. Галоўнае правіла. Пры любым планаванні бюджэту заўсёды адкладайце суму на непрадбачаныя выдаткі. Тады за два дні да зарплаты вы не апынецеся ў сітуацыі, калі няма грошай на дарагія лекі.

Як шкада, што няма гатовых рэцэптаў, як навучыцца мастацтву ўмелага абыходжання з грашыма. Для кагосьці гэта будзе ашчадлівасць ці сквапнасць, для некага – шчодрасць, для іншага – марнатраўства.

Стаўленне да грошай можа быць розным, і яно нязменна накладвае адбітак на адносіны. Верагодна, гармонія і згода мужа і жонкі ў фінансавым пытанні будуць дасягнутыя, калі кожны з іх навучыцца прытрымлівацца залатой сярэдзіны. Грошы – сродак дасягнення выгод, а не сама выгода. Але і не проста паперкі, а тое, што зарабілі вы разам.

Вельмі добры прыём запісваць у сшытак кожны даход, які прыходзіць і які сыходзіць. Завядзіце сваю кнігу даходаў і выдаткаў. Так атрымаецца грунтоўная карціна сямейнай бухгалтэрыі.

У сямейным бюджэце любой сям'і адна з найбольш затратных катэгорый выдаткаў – прадукты. Эфектыўнае кіраванне сямейным бюджэтам прадугледжвае зніжэнне выдаткаў па найбольш затратных пунктах.

Перад паходам у краму складайце спіс пакупак. Ён пазбавіць вас ад мноства непатрэбных трат. Непатрэбнае мы купляем імпульсіўна, калі паддаёмся нечаканаму ўзнікшаму з нетраў свядомасці ХАЧУ! Спіс пакупак дапамагае чалавеку абергачы сябе ад розных рэкламных трукаў і хітрыкаў, якія падахвочваюць купляць як мага больш.

## Як складаць спіс пакупак:

1. Складаць спіс загадзя, а не перад самым паходам у магазін. Ідэальна завесці блакнот і запісваць, што ў доме скончылася ці можа скончыцца. Зыходзячы з досведу кожнай гаспадыні, можна зрабіць выснову, што спіс, напісаны наспех, не поўны, і наша падсвядомасць будзе нагадваць, што мы штосьці забыліся. Яшчэ адзін бонус такога спісу. Калі хтосьці з родных ці знаёмых патэлефануе з магазіна і спытаецца, што купіць, не трэба доўга ўспамінаць. Дастаткова толькі зірнуць у блакнот.

2. Калі складаем спіс, неабходна канкрэтна ўказваць тавар. Калі ў спісе будзе напісана "купіць што-небудзь смачненькае", то наш мозг на такіх фразах выключыць свядомы складнік, а падсвядомасць разыграецца максімальна. Што і ўлічваюць маркетолагі, галоўная мэта якіх, каб вы пакінулі як мага больш грошай у краме.

3. Для таго, каб шмат і без толку не бегаць па краме, пажадана спіс складаць паводле аддзелаў або катэгорый, напрыклад: кандытарскі аддзел, бытавая хімія і г.д. Гэта дазволіць зэканоміць і грошы, і час, і паменшыць верагоднасць незапланаваных пакупак.

4. Пажадана падлічыць суму пакупкі і ўзяць грошай крыху больш за гэтую суму. Тады не паўстане спакуса купіць нешта, чаго ў спісе няма, грошай на гэта проста не будзе.

5. Абавязкова скончыце спіс напамінам, што пакупак больш не патрабуецца. Так мы даём каманду падсвядомасці, што ўсё, шукаць нешта па краме мы больш не павінны. Некаторыя псіхолагі раяць напісаць нешта тыпу напаміну: "Кожны рубель на рахунку, не купляй больш нічога". Гэта сапраўды дапамагае эканоміць.

Фота galerey-room.ru.

ГІСТОРЫЯ

# Паранены хлопчык з Даўгінава два гады блукаў па лесе

ВІЛЕЙКА

**Штогод у Ізраілі выбіраюць шэсць чалавек, якія перажылі жахі Галакосту. Яны запальваюць шэсць факелаў – па адным на кожны мільён загінулых яўрэяў.**

Адбываецца гэта на цырымоніі Дня катастрофы і гераізму яўрэйскага народа ў іерусалімскім мемарыяльным комплексе "Яд ва-Шэм". Прайшла яна 4 мая.

Адзін з гэтых факелаў сёлета запаліў выхадзец з Даўгінава **Хаім Гросбейн.**

Нарадзіўся ён у 1937 годзе. Калі амаль усіх яўрэяў Даўгінава знішчылі нацысты, Хаіму ўдалося збегчы ў лес з некалькімі сваякамі і суседзямі, паведамляе сайт "Яд ва-Шэма".

З пяці тысяч яўрэяў з Даўгінава да лета 1942 у жывых засталося толькі 278. Гэта пераважна старыя, жанчыны і дзеці – тыя, хто паспеў сысці ў лес або здолеў адседзецца ў склепе.

Выратаваў жыццё 218 з іх партызан **Мікалай Кісялёў**. Ён вывеў яўрэяў за лінію фронту. Па акупаванай тэрыторыі ад жніўня да кастрычніка людзі прайшлі больш чым 1500 кіламетраў.

Хаім Гросбейн прайшоў толькі пачатак шляху з гэтым атрадам. У дарозе, пасля нападу немцаў на іх лагер, быў паранены. Яго пакінулі. Хлопчык каля двух год бадзяўся ў лесе, але здолеў выжыць.

Хаім Гросбейн пераехаў у Ізраіль на пачатку 1960-х гадоў. У Хаіма і яго жонкі Алізы двое дзяцей і пяцёра ўнукаў.

### "Раптам пачалі забіваць людзей, а немцы спакойна ходзяць, смяюцца"

**Давід Фабрыкант** у артыкуле пра сустрэчу ў Хайфе былых вязняў гета з удзельнікамі таго паходу прыводзіць успаміны Хаіма Гросбейна:

"У сорак першым мне было чатыры гады. Хоць быў маленькі, але да апошняй хвіліны буду памятаць падзеі тых гадоў. Я не мог зразумець, што адбываецца, што дзеецца, калі нас акупавалі немцы.

Раптам пачалі забіваць людзей, а немцы спакойна ходзяць, смяюцца. Гэта было так дзіка. Яўрэі пачалі капаць ямы і хавацца ў іх. І наша сям'я збудавала склеп у доме. Прарабілі дзіркі ў падмурку, каб можна было дыхаць.




Хаім Гросбейн.

Потым мы трапілі ў гета. Многіх пагналі на працу да польскіх паноў. Па дарозе забілі майго бацьку. Цётка Двося загадала мне: "Пачуеш стрэлы, хавайся пад рускую печ". Так я і рабіў. Мяне выдаў немцам пячнік. Прыйшлі яны і пачалі крычаць: "Юдэ, аруйс!"

Застаўся я ў гета з маёй стрыечнай сястрой, гадоў на пяць старэйшай за мяне. Яна завязвала хустку на вочы, каб не бачыць, як страляюць. Вакол гвалт, крык ...Мы ў гэты час хаваліся з ёй у саломе. Стала спакойней, мы выйшлі. Мёртвая цішыня, як быццам не на гэтым свеце. Убачылі цётку, яна нас падабрала. Бадзяліся, пакуль не натрапілі на партызан. Там жа знаходзілася цётка Двося. Нас сабралі і павялі лясамі. Я ішоў, трымаючыся за руку цёткі. На адным з прывалаў на нас напалі фашысты. Мы пабеглі. Але куля трапіла мне ў левую нагу. Двося зняла хустку, перавязала рану і цягнула мяне на сабе.

Познім вечарам усе сабраліся. Я заснуў каля нейкага дрэва. Прачынаюся – нікога. Заплакаў. Аказваецца, як даведаўся я пасля вайны, людзі сказалі цётцы, што з такой ношкай яна далёка не сыдзе, што я буду клопатам для ўсіх, трэба мяне пакінуць.

Я пабег, спадзеючыся знайсці астатніх. Сілы пакінулі мяне, сеў пад дрэвам, паміраў.

> **Упершыню ў жыцці я апынуўся адзін. Стаў блукаць.**
> **Еў усё, што траплялася на шляху: грыбы, птушыныя яйкі, жывую рыбу – браў яе за жабры і кусаў, падбіраў апалыя зярняткі, заходзіў у вёскі.**

Часам давалі акраец хлеба, шклянку малака, але бывала, што нацкоўвалі на мяне сабак. Залазіў па шыю ў адрыны, чакаў, калі прынясуць свінням "калатуху" – пойла, вядро з варанымі ачысткамі, вотруб'ем. Я пачынаў яе так есці, што парасяты здзіўлена глядзелі.

Мяне часам заставалі там гаспадыні і, хрысцячы, галасілі: "Свят, свят, свят. Згінь, нячыстая сіла".

> **Так я, лясны валацуга, пражыў каля двух год. У лесе, амаль у непрытомнасці, пачуў голас: "Ён яшчэ жывы". Гэта былі партызаны. Узялі мяне на плечы, прынеслі ў санчасць.**

Рана на назе загнаілася. За справу ўзяўся доктар Котляр. Рэзалі на жывую, я толькі рыпеў зубамі.

У Даўгінаве загінулі мае бацькі, брат Шмуіл, іншыя сваякі. Ніхто не верыў, што я застаўся жывы. Каля дома знайшоў наш падсвечнік, пакамечаны, аплаўлены".

Аддзел інфармацыі.

# У Вілейцы дапамогуць творцам стаць прадпрымальнымі

## Для гэтага хочуць стварыць сацыяльную арт-лабараторыю

ВІЛЕЙКА

**Віляйчанка Святлана Паўлава прызнаецца: "Ніколі і не думала, што буду займацца творчасцю". Але зараз яна і мыла ручной работы вырабляе, і дэкорам з тканіны займаецца.**

– Калі чалавек знойдзе тое, што яму прыйдзецца да душы, то гэта атрымаецца, – упэўнена. І прыводзіць прыклад. – У тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнай абароны насельніцтва, дзе працую, пажылыя людзі вельмі прыгожа лепяць з гліны. Мы не думалі, што ў іх так цудоўна атрымаецца.

У Святланы разам з паплечнікамі ўзнікла ідэя дапамагчы творцам стаць прадпрымальнымі і паўдзельнічаць у дабрачыннасці. Вырашылі стварыць сацыяльную арт-лабараторыю "Добрыя рэчы".

– Прааналізавалі сітуацыю на Вілейшчыне, пагледзелі на тых людзей, з якімі працуем у цэнтры, і вырашылі паспрабаваць запусціць праект. Апроч зарэгістраваных рамеснікаў, яшчэ ж многія займаюцца творчасцю для сябе. Кажуць: "Я гэта, можа, і рабіў бы, але не ведаю, ці будзе прадавацца і ці трэба гэта ўвогулекаму-небудзь". А тут у іх будзе шанец паспрабаваць сябе ў сацыяльным прадпрымальніцтве.

У выніку можна будзе наладзіць продаж вырабаў віляйчан – у тым ліку, людзей з інваліднасцю і пажылых, якія займаюцца ў гуртках і працоўных майстэрнях тэрытарыяльнага цэнтра.

– Але трэба ведаць, што будзе карыстацца попытам. Таксама ў нас ёсць людзі, якія могуць бясплатна навучыць творчым заняткам. Аднак трэба зрабіць так, каб яны сустрэліся на якой пляцоўцы, змаглі падзяліцца досведам, – тлумачыць Святлана. – Трэба выйсці і на кірмаш – паглядзець, як гэта прадаецца, як будавацца зносіны з пакупнікамі. Бо камусьці трэба ўсміхнуцца, іншаму – падрабязна растлумачыць пра свае творы.

### Што ў праекце

Праект сацыяльнай арт-лабараторыі ўключае ў сябе першы ў Беларусі сувенірны чэрыці-шоп (дабрачынную краму), выязныя майстар-класы, творчыя сустрэчы. Напрыклад, хочуць арганізаваць "Бадзёры панядзелак" – дзень сувенірных распродажаў, калі любы сувенір можна будзе набыць за вызначаную суму. А ў "Шчодрую пятніцу" раз на месяц любы ахвотны можа прынесці зробленыя сваімі рукамі сувенір і пакінуць яго на рэалізацыю.

– Як вынік, занятак творчасцю дзецям і моладзі дапаможа адарвацца ад камп'ютара і пазнаёміцца з цікавымі людзьмі, паспрабаваць сябе ў нечым новым і перадаць гэтыя веды бацькам. Для людзей старэйшага ўзросту – гэта магчымасць не толькі знайсці сабе занятак па душы, але і падзяліцца досведам.

### Ідэю чэрыці-шопу падгледзелі ў Шатландыі

Яна з'явілася пасля таго, як у тэрытарыяльным цэнтры пачалі знаёміцца з формамі занятасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі за мяжой.

– Летась нам пашчасціла быць у Шатландыі. Пабачылі, як там працуюць чэрыці-шопы, – прыгадвае Святлана. – Сістэма простая. Чалавек можа прынесці сваё адзенне, абутак, рэчы, якія знаходзяцца ў добрым стане, і аддаць бясплатна ў краму. Там іх ацэньваюць і выстаўляюць на продаж. Не кожны можа дапамагчы грашыма, але затое можа прынесці рэчы. А грошы за іх накіруюць на дапамогу. Чалавек выбірае, каму хоча яе аказаць: ёсць чэрыці-шопы, які падтрымліваюць анкахворых, сірот, медсясцёр...

У Вілейцы хочуць паспрабаваць стварыць спрошчаную мадэль чэрыці-шопу, пабачыць, як гэта атрымаецца.

### Праект удзельнічае ў конкурсе сацыяльных праектаў

У Беларусі сёмы год запар праводзяць конкурс сацыяльных праектаў Social Weekend. Вілейскі праект выйшаў у чвэрцьфінал. Ці трапіць ён у фінал, вырашыцца 15 мая.

**– Калі не ўдасца перамагчы ў праекце і атрымаць фінансаванне?**

– Усё роўна будзем працаваць па гэтым праекце. Але тады, напрыклад, не так хутка ўдасца арганізаваць стацыянарнае гандлёвае месца. Безумоўна, будзем шукаць іншыя крыніцы фінансавання. Мы гэтай ідэяй загарэліся, нам хочацца гэта зрабіць. Будзем рады бачыць усіх, хто займаецца ці хоча займацца творчасцю ці жадае дапамагчы. Заклікаем далучацца да нас.

Ад красавіка ўдзельнікі праекта выходзяць на кірмашы ў Вілейцы.

– Гэта робім для таго, каб пабачыць, што трэба людзям, расказаць пра сваю дзейнасць, прыцягнуць у наш праект новых людзей. І наогул, каб зразумець, ці трэба гэта. Але пакуль па водгуках адчуваем, што трэба, – кажа Святлана Паўлава.

Алесь ВЫСОЦКІ.

Наталля Якаўлева.







Вольга Семянёк.

# Муж на пасажырскім крэсле і навігат

МАЛАДЗЕЧНА

**Далоў стэрэатыпы! Чатыры жанчыны, якія не ўяўляюць сваё жыццё без руля, дарогі, хуткасці і паху бензіну, расказалі "Рэгіянальнай газеце" пра тое, як яны адчуваюць сябе на дарозе і чаму не крыўдзяцца на жарты пра "бландзінак за рулём".**

На сустрэчу на трох машынах прыехалі чатыры аўталэдзі: **Таццяна Воўк, Ірына Ярмошанка, Вольга Семянёк і Наталля Якаўлева.**

Пытанні, якія абмяркоўвалі ў той дзень, былі далёкія ад звычайных жаночых пасядзелак. Успомнілі і тасол, і датчыкі халастога ходу, і запаску. Але пра ўсё па парадку.

Стаж кіроўцы ў жанчын розны. Калі Наталля кіруе машынай толькі год і два месяцы, то Вольга за рулём 13 год.

– Я ўжо і прывыкла да таго, – смяецца Вольга, – што ў сяброў у тэлефоне запісана "Вольга-цвярозы вадзіцель". Часта даводзіцца забіраць сяброў з гасцей. Я заўсёды за, мне не цяжка. Праўда, цяпер езджу на машыне таты, таму не магу пахваліцца, што ў мяне ёсць мая ўласная сяброўка.

Таццяна, Ірына і Наталля сваімі "жалезнымі коньмі" ганарацца. І калі ў Тані – гэта Ксюша (таму што Сітраэн-Ксантыя), у Ірыны Лялечка, то Наталля сваю машыну называе Арлом.

– Ну гэта ж "Опель" (Opel), тым больш універсал. Не магу я яго называць неяк памяншальна. Гэта мая першая машына, а не, былі яшчэ "Жыгулі", "капейка", але тады я яшчэ ездзіла без правоў. Сваю машыну я люблю, прывыкла ўжо. І маленькую, "жаночую", вадзіць не хачу.

Калі зазірнуць у салон машын, можна зразумець, што іх уладальнікі жанчыны: анёлы, цацкі, кветачкі, смайлікі.

– Ой, чаго ў машыне толькі няма, – кажа Таццяна, – і сцяжкі, і налепкі. А ў багажніку важу адвёрткі, дамкрат. Магу, калі давядзецца, і кола памяняць. Ну, тэарэтычна, а практычна для гэтага ёсць муж. Калі нешта здараецца, я тут жа на тэлефон: "Дзіма-а-а, у мяне машына сапсава-а-а-лася".

**Таццяна прызнаецца, што вельмі любіць, калі муж сядзіць побач.**

– Ён для мяне і навігатар, і інструктар, і псіхолаг, і механік. Памятаю, як аднойчы ехалі ў Бараўляны. Я разгубілася, кажу яму: "Здаецца, мы заблудзілі". А ён мне: "Спакойна, Танюха, разбяромся".

І Ірына, і Вольга, і На-









Таццяна Воўк.






Ірына Ярмошанка.

# ...тар, і інструктар, і псіхолаг, і механік

...талля пацвердзілі, што адзін на адзін з паламанай машынай заставацца не даводзілася. Заўсёды мужчыны прыходзяць на дапамогу.

– Але ў некаторых дэталях усё ж разбірацца навучылася, – працягвае Таня. – Ведаю, дзе ў машыне датчык халастога ходу.

**– Ці бывалі з вамі сітуацыі на дарозе, у якіх сорамна прызнацца?**

– Бывалі, – прызнаецца Ірына, – я гэта называю "часовая страта зроку". Аднойчы ехала па сустрэчнай паласе. Новы святлафор паставілі, яго трэба было аб'язджаць справа, а я адразу павярнула. Еду, гляджу, двайная суцэльная справа, з боку пасажыра. Да сёння сорамна. Ну і на ручніку ехала.

– А, так, – ківаюць галавой тры другія жанчыны. – І ў нас такое было.

– А калі, бывае, мужчына каторы сігналіць, – кажа Таццяна, – я высоўваю руку і махаю яму. Ну, а што? Не сварыцца ж.

– Ой, Таня, не скажы, – падхоплівае Вольга. – Бываюць такія сітуацыі на дарозе, што я адчуваю сябе таксістам з фільма "Брат 2".

**– Што, і мацюкаецеся?**

– Не без гэтага, – чырванеюць дзяўчаты.

**– А якія адносіны з ДАІ?**

– Мяне за гэты год спынялі тройчы, – кажа Наталля, – на праверку дакументаў і не было налепкі на тэхагляд.

– Шанцуе, – кажа Ірына, – мяне за 13 год не спынялі ні разу.

– Нармальныя адносіны, – працягвае Наталля, – ні разу не штрафавалі.

– А мяне мінская "Страла" спыніла, – кажа Таццяна, – акурат 8 сакавіка. Ну, пагутарылі, павіншавалі.

**– Ці ёсць нейкія любімыя і нелюбімыя вуліцы ў вас у Маладзечне?**

Вольга: – Я вельмі люблю Магістральную: ні святлафораў, ні "ляжачых паліцэйскіх".

Наталля: – А я вельмі не люблю скрыжаванне ля "Бярозкі".

Да размовы далучаецца муж Таццяны, які толькі падышоў да нас:

**– Ведаеце, жанчана-кіроўца – гэта далёка не самае горшае, што можа здарыцца на дарозе. Усё ж яны больш разважлівыя, палахлівыя і асцярожныя. Гэта мужыкі пруць як танкі, не спыніш, не дакажаш ім нічога. Так што: далоў стэрэатыпы!**

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**
**Фота Настассі РОЎДЫ.**

НАВІНЫ

## "Ашмяны" зноў прайграюць

АШМЯНЫ

Не прынёс ачкоў ФК "Ашмяны" і чацверты тур чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Ашмянцы дома 7 мая прымалі "Смалявічы-СТІ" і атрымалі чацвертае запар паражэнне. На гэты раз з лікам 0:2.

Абодва галы госці забілі пасля ўдараў галавой: на 15-й хвіліне і на 58-й.

У канцы гульні ашмянцы мелі выдатны шанец скараціць адставанне ў ліку, але пасля ўдару **Януша Ладуцкі** мяч трапіў у перакладзіну, расказаў прэс-аташэ ФК "Ашмяны" **Аляксандр Навумчык.**

Пасля чатырох згуляных матчаў у "Ашмянаў" нуль ачкоў і заканамернае апошняе месца.

– Сітуацыя ў турнірнай табліцы зусім невясёлая, але не катастрафічная. Наперадзе шмат гульняў, і футбалісты абавязкова перапыняць няўдалую серыю, – лічыць Аляксандр Навумчык.

## Валідольны матч і хет-трык

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

"Смаргонь" выйгравала 3:0, але зарабіла толькі ачко. Смаргонцы 8 мая гулялі ў гасцях супраць "Баранавічаў". Пачалі матч упэўнена: да 50-й хвіліны выйгравалі 3:0. Хет-трык зрабіў **Сяргей Крот.**

Але ўжо праз хвіліну гулец "Баранавічаў" забіў гол у адказ. Да канца матча гаспадары вынашчыліся яшчэ двойчы. Вынік – нічыя 3:3.

Галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк** ацаніў матч як валідольны:

– Прыехалі ў Баранавічы толькі за перамогай, – прыводзіць яго словы афіцыйны сайт клуба. – На ўстаноўцы прасіў хлопцаў падымацца вышэй, гуляць у зоне сярэдняга прэсінгу, забіраць мяч на чужой палове поля. Многае атрымалася, стварылі вялікую колькасць галявых момантаў. Але выйграючы 3:0 і згуляць 3:3 – гэта трэба ўмудрыцца.

"Смаргонь" ідзе на восьмым месцы ў першай лізе. Наступны матч правядзе дома 15 мая. Сустрэнецца з лідарам – "Гомельчыгунтрансам".

## "Вілія" распачне чэмпіянат гульнёй з "Уздой"

ВІЛЕЙКА

Чэмпіянат Мінскай вобласці па футболе пачнецца 14 мая. У ім будуць удзельнічаць 13 камандаў.

"Вілія" з Вілейкі першую гульню правядзе 15 мая на выездзе супраць "Узды".

Сёлета "Вілія" засталася адзіным прадстаўніком рэгіёна ў чэмпіянаце вобласці. Летась кампанію ёй складалі "ДЮСШ-4" з Маладзечна і "Забудова-Буд".

## "Мехатроніка" выйграла турнір у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы 8 мая прайшоў турнір па футболе, прысвечаны Дню Перамогі. У ім удзельнічалі чатыры каманды.

Матчы ў паўфіналах прынеслі такія вынікі: "Мехатроніка" абыграла "Куранец" 2:1, "Шылавічы" з такім жа лікам былі мацнейшыя за "ДЮСШ-Зеніт".

У матчы за трэцяе месца "ДЮСШ-Зеніт" перамог "Куранец" 3:0. расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. У фінале "Мехатроніка" яшчэ больш упэўнена разабралася з "Шылавічамі" – 4:0.

## Перамагла каманда фізкультурна-аздараўленчага цэнтра

МЯДЗЕЛ

Праз дзень, 9 мая, футбольны турнір, прысвечаны Дню Перамогі, адбыўся на гарадскім стадыёне ў Мядзеле.

Перамогу атрымала каманда Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра. На другім месцы – каманда "Спадарожнік", на трэцім – Нарацкага сельсавета, паведаміў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Леанід Шыдлоўскі.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Маладзечанскія выратавальнікі – трэція ў вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

У Нясвіжы 28 красавіка адбыліся фінальныя спаборніцтвы па міні-футболе ў межах спартакіяды Мінскага абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

Трэцяе месца на іх заняла каманда Маладзечанскага райаддзела, паведамляе абласное ўпраўленне.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота забяспечанае Віталём БАРАНСКІМ.

Хакеісты і заўзятары ў момант, калі даведаліся, што "Дэльта" стала чэмпіёнам.




Фота забяспечанае Віталём БАРАНСКІМ.

Самы малодшы гулец каманды "Дэльта" Антон Жураўлёў.



Фота Настассі РОЙДЫ

Віктар Жураўлёў (злева) і Віталь Баранскі завіталі ў рэдакцыю пахваліцца Кубкам.

# Хакеісты "Дэльты" чакалі лёду 40 гадоў, а перамогі – два

МАЛАДЗЕЧНА

**Аматарская хакейная каманда "Дэльта" з Маладзечна стала ўладальнікам Кубка адкрытага чэмпіянату аматарскай хакейнай лігі ў дывізіёне "Навічок".**

– Летась мы былі трэцімі, і вось нарэшце Кубак дома, – радасна паведамілі "Рэгіянальнай газеце" гульцы каманды **Віталь Баранскі** і **Віктар Жураўлёў**.

У лізе "Навічок" гулялі восем камандаў, сем сталічных і адна маладзечанская.

Турнір доўжыўся ад кастрычніка да мая. За гэты час "Дэльта" згуляла каля 50 гульняў.

– У фінале мы гулялі супраць мінскай каманды "Партызан", – расказвае Віталь. Першую гульню мы ім прайгралі з лікам 3:4. Другая гульня аказалася вельмі драматычнай і непрадказальнай. Мы прайгравалі з лікам 5:1, а змаглі вырваць перамогу – 6:5. Ну і апошні матч выйгралі з лікам 6:2.

### Каманда "Дэльта" – гэта адзін кулак

Каманда "Дэльта" стварылася ў 2011 годзе.

Але калі ўсур'ёз, каманда задумалася пра ўдзел у хакейных лігах, запрасіла да сябе трэнера – **Андрэя Пічуху.**

– Мы чакалі лёду ў Маладзечне 40 гадоў, таму цяпер трэніровак не прапускаем. Гэта карысна і для здароўя, і для ўмацавання сям'і. Вось нашы Жураўлёвы. Тры пакаленні сям'і гуляюць. Наш ветэран Віктар Жураўлёў, **Аляксандр Жураўлёў** і самы малодшы, 18-гадовы член каманды – **Антон Жураўлёў.** На выязныя матчы ездзім таксама цэлымі сем'ямі, – расказвае Віталь Баранскі.

– Я засумаваў па перамогах, – прызнаецца Віктар Жураўлёў, – у 1971 годзе медалі на юнацкім турніры нам уручаў сам **Усевалад Баброў.**

Сёння сярэдні ўзрост каманды "Дэльта" – 45 гадоў. Складаецца яна толькі з аматараў. У камандзе ёсць спартсмены, але гэта былыя футбалісты, дзюдаісты, чэмпіёны па барацьбе.

– На наступны сезон мы хочам узяць маладых гульцоў і яшчэ раз пераканаць усіх, што ў гэтай лізе мы – самая моцная каманда.

Некалькі гульцоў каманды ўжо ў гэтым сезоне вызначыліся як лепшыя.

Лепшым снайперам лігі стаў **Ян Казееў**, 50 ачкоў камандзе прынёс **Ігар Сачук.** Лепшым абаронцам лігі назвалі **Сяргея Арловіча.**

– Асобна хочацца сказаць пра нашых варатароў: **Леаніда Камандзігу** і **Вячаслава Арлоўскага.** На іх трымаецца поспех усёй каманды. Нават калі каманда будзе гуляць выдатна, а варатар будзе прапускаць галы, то гэта ўжо не каманда. Нам у гэтым сэнсе пашчасціла. Вячаслаў, напрыклад, можа на гульні сабрацца так, што ні адзін мускул у яго не ўздрыгне. Скала, а не варатар. А ўвогуле, хакейная каманда – гэта як кулак. Толькі разам мы – сіла.

**Наталля ТУР.**

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Салата з курыцай, агароднінай і фасоляй

**Такой салатай радуе сваіх родных валожынка Наталля Апіёк.**

На сёння яна жыве ў Мінску, працуе ў БНТУ, але ў сваю родную вёску Пералясанка прыязджае часта, бо там жыве яе маці. І трэба прыязджаць, пакуль ёсць да каго прыехаць, пакуль не стаіць дом з пустымі вокнамі, пакуль заўсёды цёпла і ўтульна.

*300 г філе курыцы, 1 сярэдні качан пекінскай капусты, 1 бляшанка кансерваванай фасолі, 300 г агуркоў, 300 г памідораў, 2-3 яйка, 250 г маянэзу. Зяленіва і адзін агурок – для ўпрыгожвання, соль – на смак.*

Філе курынай грудкі адварыце, астудзіце і разбярыце на валокны даўжынёй 4-6 см.

Пекінскую капусту прамыйце, нашаткуйце доўгімі палоскамі. Агуркі і памідоры нарэжце буйнымі кубікамі. Яйкі зварыце і дробна парэжце.

Усе інгрэдыенты злучыце ў салатніку. Дадайце фасолю без вадкасці. Запраўце маянэзам. Пасаліце і перамяшайце.

Упрыгожце гатовую салату зелянінай і кавалачкамі агуркоў. Хай салата трохі пастаіць і падавайце да стала.

Можна ў гэту салату дадаць балгарскі перац, ён добра спалучаецца з фасоляй.

Пекінскую капусту можна замяніць на любую зялёную салату ці на дробна нашаткаваную белакачанную капусту.

Стравы, у аснове якіх свежая гародніна, добра запраўляць не маянэзам, а салатнай запраўкай з сумесі алею, лімоннага соку і пахучых прыпраў.

**Проста МАРЫЯ.**

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Плачу наперад"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
17 мая – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Вакзал на траіх"** (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
19 мая – у 19:00

Кантактныя тэлефоны:
**75-29-16** – намеснік дырэктара,
**76-17-32** – галоўны адміністратар,
**75-24-17** – каса.

E-mail: **madt@tut.by**

УНП 600066659

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | | | | | 8 |
| | | | | | | | 7 | |
| 3 | 9 | 7 | 4 | | | | | |
| | 7 | | 3 | 9 | | 6 | | 2 |
| | 2 | | | 1 | | | 3 | |
| 1 | | 6 | | 2 | 8 | | 9 | |
| | | | | | 6 | 5 | 8 | 9 |
| | 8 | | | | | | | |
| 5 | | | | | | 1 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

АФІША

Кадр з фільма "Першы мсціўца: Супрацьстаянне".

Фота bigcinema.kz.

# Каб адолець монстра, трэба больш даведацца пра сябе

## Кіно Маладзечна

Прэм'ера будучага тыдня – чарговая гісторыя пра амерыканскіх супергерояў **"Людзі Ікс: Апакаліпсіс"**. У гэтай частцы фантастычнага баевіка і людзі, і мутанты змагаюцца за сваё існаванне. А перад Людзьмі Ікс паўстае новы антагажыст – старажытны мутант Апакаліпсіс. Бойка з ім можа каштаваць не толькі жыцця мутантаў, але і ўсяго чалавецтва. Каб перамагчы монстра, Людзі Ікс павінны як мага больш даведацца пра паходжанне свайго віду.

Для аматараў супергерояў ёсць яшчэ адна прапанова – **"Першы мсціўца: Супрацьстаянне"**.

Анімацыі ў кінатэатрах стала збіраюць вялікую аўдыторыю, і толькі частка наведнікаў прыходзіць на сямейны прагляд з дзецьмі. Такая ж сітуацыя чакае мультфільм **"Angry Birds у кіно"**. На яго дарэчы схадзіць з сынам ці дачкой, ці на самае вясёлае спатканне, ці для сустрэчы, падчас якой някепска было б разрадзіць абстаноўку.

А найперш яго варта паглядзець тым, хто мае такую ж праблему, як і галоўны герой Рэд – як кантраляваць свой гнеў? Да чаго гэта разбуральная эмоцыя можа давесці і як з ёй змагацца, глядзіце ў карціне. Максімальны зарад пазітыву гарантаваны.

## Кіно Вілейкі

Галоўны фільм пракату на гэтым тыдні – фантастыка **"Першы мсціўца: Супрацьстаянне"**. Гісторыя супергерояў, заснаваная на коміксе, стала адной з чаканых прэм'ер года. Карціна заключае трылогію пра Капітана Амерыка, але плануецца яшчэ выхад дзвюх частак фільма "Мсціўцы: вайна бясконцасці". Фільм збірае станоўчыя водгукі, некаторыя ацэньваюць яго як найлепшы з серыі пра мсціўцаў.

Для сямейнага прагляду кінатэатр "Мір" актыўна прапануе мультфільмы **"Рабінзон Круза: Вельмі заселены востраў"** і **"Ваўкі і авечкі: бе–езразважнае ператварэнне"**. Абодва стануць прыемным і карысным баўленнем часу. У першай карціне шмат гумару і тэмы ўзаемаадносін чалавека і прыроды. У другой на першы план выходзіць тое, як можна дамагчыся свайго, нават калі ты раптоўна ператварыўся ў авечку.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**

Rh.by

## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Жыхарам дома №60 па Вялікім Гасцінцы пабудуюць дзве паркоўкі, але сметніцу пераносіць не стануць**

Дзве паркоўкі на 27 месцаў прадугледжаны для дома 60-а, які будуецца. Пытанне – а дзе паркоўка для дома №60? ***Алеся.***

А як жа паркоўка для дома №62? ***Ірына.***

Другі дзень дрэвы пілуюць каля нашага дома, я так разумею, звязана гэта з будаўніцтвам паркавачных месцаў, будзем спадзявацца, што абяцанні выканаюць. ***Жанна.***

Не ведаю, як на вуліцы, але дома стала жыць крыху боязна. Калі выходжу з дому і бачу насупраць пад'езда вышынны кран, увесь час думаю, а ці добра яго сабралі і замацавалі... А будоўля ж толькі пачалася. ***Жанна.***

**Даследчая праца давяла да Стакгольма. Гімназіст з Мядзела Дзяніс Марач расказвае, што трэба, каб прадставіць Беларусь на юніёрскім водным конкурсе**

Малайчына, разумны хлопец. ***Галіна.***

**Парушальніка ў лесе на Вілейшчыне злавіла фотапастка** (Фота)

Дык што, у лес цяпер удвая небяспечней хадзіць. Будзеце пасля на ютубе сябе разглядаць. Гэта не са змяёй сустрэцца. ***Ігар.***

**Ад якіх твораў мастакі губляюць прытомнасць, ці лёгка адпусціць мужа ў камандзіроўку на некалькі месяцаў і які твор мастацтва выканаў Мікола Аўчыннікаў у першым класе. Мастакі Мікола і Наталля Аўчыннікавы адкрылі сумесную выставу пасля 42 год шлюбу** (Фота)

Цудоўныя людзі, мне пашчасціла працаваць разам з Мікалаем Віктаравічам. Дай бог вам здароўя яшчэ на доўгія гады і творчых поспехаў! ***Без подпісу.***

ГАРАСКОП
13-19 МАЯ

**Авен.** Эмоцыі могуць "разбушавацца", але не дазваляйце ім кіраваць вашымі ўчынкамі. Ды і навошта рабіць з мухі слана?

**Цялец.** Гэта час нечаканасцяў і праблем, якія зваляцца на вас, як "цэгла на галаву" – нечакана. Але максімум намаганняў, вы справіцеся.

**Блізняты.** Гэтыя дні, можа, і не такія ўдачныя, але ўсё ў вашых руках. І калі вам будзе здавацца, што вас ніхто не цэніць, то вазьміце сябе ў рукі і дзейнічайце.

**Рак.** Зоркі раяць вам не зацыклівацца на сваім звыклым коле зносінаў і разнастаіць яго новымі знаёмствамі. Чым больш новых людзей вы сустрэнеце на сваім шляху, тым больш шанцаў, што сярод іх вы знойдзеце па-сапраўднаму цікавых і патрэбных вам.

**Леў.** Перыяд абяцае не толькі поспех у справах, але і прыемныя перамены асабістага характару. Высокі энергетычны патэнцыял дазволіць пазбегнуць ператамлення, нават калі рытм жыцця будзе насычаны.

**Дзева.** Вас чакае эмацыйны пад'ём. Адносіны ў сям'і ўмацуюцца, вы станеце лепш разумець адно аднаго. Узнікне жаданне завесці дзяцей.

**Шалі.** Часцей смейцеся, гучна і доўга. Смейцеся, пакуль дыханне не перахопіць. Калі ў вас ёсць сябар, які вымушае вас смяяцца, праводзьце больш часу з ім.

**Скарпіён.** Не ўкладайце грошы ў тыя праекты, якія выклікаюць хоць маленькае сумненне.

**Стралец.** Практычна ўсё, што плануеце, здзейсніцца. Але для гэтага спатрэбіцца рашучасць, актыўнасць, уменне хутка рэагаваць на сітуацыю. Задумайцеся аб важным набыцці.

**Казярог.** Вы будзеце круціцца як вавёрка ў коле. І гэта прынясе нядрэнныя вынікі. Другая палавінка здзівіць вас жаданнем аблегчыць цяжкую ношу.

**Вадалей.** Гэта час "псіхалагічных лекаў", калі вы самі можаце выступіць у якасці доктара і паспрабаваць выправіць негатыўныя (на ваш погляд) рысы характару вашых каханых.

**Рыбы.** Не змешвайце жаласлівасць з сімпатыяй, а свае матэрыяльныя інтарэсы з неабходнасцю дапамагчы. У гэты час добра запісацца на курсы, у клуб, выбраць для сябе новае захапленне і кола зносінаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

НАДВОР'Е

14 мая, субота




| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +11 / +20 / 733 ← 4 | +15 / +19 / 730 ↖ 6 | +12 / +20 / 732 ↖ 1 | +11 / +17 / 737 ← 6 |
| Вільня | +10 / +19 / 740 ↖ 6 | +13 / +20 / 738 ↖ 6 | +12 / +15 / 740 ↗ 6 | +8 / +15 / 745 ↗ 7 |

Тэмпература Вобланачасць паветра ападкі; Ціск (мм рт. сл.); Хуткасць ветра м/с; Усход захад па Маладзечне

Усход 5.08 Захад 21.10 Даўжыня дня 16.02

Усход 13.04 Захад 2.38 Квадра 2

ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -2,6 °С у 2004 годзе
Максімальная тэмпература +27,1 °С у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,5 мм у 2011 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Якую работу можна знайсці ў Маладзечне, горадзе з найбольшым узроўнем беспрацоўя ў краіне? І якая сітуацыя з працаўладкаваннем у іншых раёнах рэгіёна? Чытайце праз тыдзень у "Рэгіянальнай газеце".**




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№20 (1098) 13.05.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 448. Падпісана ў друк у 9.00 12.05.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.


ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ставіцеся да жанчын за рулём?



**Міхаіл Мышук, пенсіянер:**
– Станоўча, нават вельмі выдатна. Жанчыны больш ўважлівыя ды амаль не ўжываюць алкаголь. Могуць і ў госці падкінуць, падмяняючы мужа. Я кірую аўтамабілем з 1959 года і ніякіх стэрэатыпаў не маю.



**Марыя Свірыдзёнак, працуе ў ДЮСШ №1:**
– Стаўлюся выдатна, сама з'яўляюся кіроўцай каля года, і ў шоку, што ўсё так цудоўна. Стэрэатыпы пра бландзінак не падтрымліваю.



**Алеся Трасцянка, студэнтка завочнага аддзялення біяфака БДУ, прадавачка:**
– Добра, сама не кірую аўтамашынай, але сёлета збіраюся вучыцца. Думаю, навучанне – гэта даступна і рэальна. На дарозе ёсць няўважлівыя як жанчыны, так і мужчыны.



**Антон Пісарэнка, дзяжурны электрык "Мінскхлебпрама":**
– Адношуся да гэтага нармальна, спакойна. Здаецца, па статыстыцы аварый сярод мужчын больш, але гэта таму, што жанчын за рулём менш. Лічу, што мужчыны больш уважлівыя. Сам кіроўца ужо сем гадоў.



**Наталля Цюрына, студэнтка БДЭУ:**
– Калі ты ўмееш кіраваць, то ўмееш, калі не, то не сядай за руль. І колер валасоў тут ролі не адыгрывае. Добра стаўлюся да жанчын-кіроўцаў: села, паехала і ні ад каго не залежаш. Нядаўна паспрабавала сама, уражанні выдатныя.



**Ігар Тукайла, студэнт політэхнічнага каледжа:**
– Стаўлюся не вельмі добра. Лепш не пускаць іх за руль. Шмат тых, хто парушае правілы, часта гэта бачу.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**